

Інфармацыйны бюлетэнь

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

№ 1 (32) • 2008

BirdLife INTERNATIONAL


Сустракайце
вялікую белую чаплю -
"Птушку года 2008"

Фота Дз. Якубовіча

Тэмы нумара:



## Палажэнне аб нацыянальнай кампаніі "Птушка года 2008"

Рашэннем Рэспубліканскага Савета АПБ птушкай 2008 года была абрана вялікая белая чапля. Такі выбар зроблены не выпадкова. Мэтай кампаніі "Вялікая белая чапля - птушка 2008 года" з'яўляецца прыцягненне ўвагі да праблемы рыбаедных птушак. Некаторыя віды гэтых птушак абвешчаны "непажаданымі", асабліва на ставах рыбгасаў, якія прываблліваюць рыбаедных птушак спрыяльнымі харчовымі ўмовамі. На "непажаданыя" віды рыбаедных птушак (вялікі баклан, шэрая чапля) можна паляваць амаль у любы час. За адстрэл вялікіх бакланаў і шэрых чапляў у шэрагу рыбгасаў нават прысуджаюцца прэміі. На жаль, пад стрэлы паляўнічых могуць трапляць і рэдкія віды птушак, у тым ліку і вялікая белая чапля. Узаконены адстрэл "непажаданых" відаў вядзецца і далёка за межамі рыбгасаў, нават на ахоўваемых тэрыторыях, што з'яўляецца дадатковым фактарам неспакою для гняздуючых птушак, у тым ліку і рэдкіх. Напрыклад, у 2007 г. гэта адбывалася у дзвюх вялікіх калоніях чапляў і бакланаў у межах заказніка рэспубліканскага значэння "Сярэдняя Прыпяць", які з'яўляецца таксама Рамсарскай тэрыторыяй (глядзі інфармацыйны бюлетэнь АПБ №4 за 2008г.).

Працяг на с. 2

*Пачатак на с.1*

Да сярэдзіны XX стагоддзя адбывалася зніжэнне колькасці вялікай белай чаплі на тэрыторыі ўсёй Еўропы. Да канца 1980-х гадоў на Беларусі адзначаліся адзінкавыя рэгістрацыі птушак, больш-менш рэгулярна яны сталі гнездавацца ў нас толькі 15 гадоў таму. З гэтай нагоды вялікая белая чапля ў 1981 г. занесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь. Асноўнымі фактарамі пагрозы для віду да гэтага часу з'яўляюцца змяншэнне плошчы і дэградацыя натуральных поймаў, а таксама неспакой на месцах гнездавання.



Фота Дз. Якубовіча

Пашырэнне арэала віду і павелічэнне колькасці зараз адзначаецца ў многіх краінах Еўропы, у тым ліку і ў Беларусі. Сёння вялікую белую чаплю можна ўбачыць значна часцей і практычна паўсюдна, але выпадкі гнездавання да гэтай пары былі вядомыя толькі на поўдні Беларусі. Спарадычныя звесткі аб гнездаванні не дазваляюць праліць святло на вызначэнне сучаснага стану папуляцыі вялікай белай чаплі на тэрыторыі краіны. З улікам штогадовых змяненняў колькасці і размеркавання віду гэта не дазваляе вучоным даць доўгатэрміновы станоўчы прагноз існавання папуляцыі.

Зімуе вялікая белая чапля ў паўночнай частцы Афрыкі і Цэнтральнай Азіі. Прылятае з месцаў зімоўкі ў канцы сакавіка - красавіку. У спрыяльныя гады адзінкавыя птушкі застаюцца зімаваць на незамярзаючых вадаёмах у паўднёва-заходняй і заходняй частцы Беларусі.

Селіцца вялікая белая чапля ў водна-балотных угоддзях: па берагах густа зарослых кустамі і трыснягом вадаёмаў, у поймах рэк, у забалочаных астраўных лясах і іншых вільготных месцах. Падчас міграцый сустракаецца на палях, лугах, мелкаводдзях рэк і азёр.

Гняздуецца чапля як паасобку, так і ў змешаных калоніях разам з шэрымі чаплямі і вялікімі бакланамі. Гнёзды будуе на заломах трыснягу і ў хмызняках, радзей на дрэвах. Будаўнічым матэрыялам з'яўляюцца галлё, трыснёг, сустракаецца белае пер'е. У гняздзе звычайна 4-5 яек, афарбаваных у блакітны колер. Харчуецца рыбай і воднымі бесхрыбетнымі.

Для захавання гэтага прыгожага і цікавага віду, занесенага ў Чырвоную кнігу Беларусі, неабходна зберагчы месцы гнездавання чаплі, знізіць фактар неспакою ў перыяд гнездавання, забараніць паляванне на рыбаедных птушак у месцах гнездавання вялікіх белых чапляў. Немалаважным з'яўляецца і вылучэнне сучасных гнездавых паселішчаў, атрыманне звестак аб сустрэчах гэтых птушак у розныя сезоны года на тэрыторыі краіны (глядзі ўмовы акцый "Сустрэчы з вялікай белай чапляй" і "Калонія вялікай белай чаплі" на с. 3 нашага бюлетэня).

Руслан Шайкін, спецыяліст па экалагічнай адукацыі.

## Агульныя патрабаванні да конкурсных мастацкіх, літаратурных і фотаработ

На кожнай рабоце павінны быць пазначаны імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост, дакладны адрас і тэлефон аўтара, назва гуртка, адрас, а таксама імя, прозвішча кіраўніка гуртка і яго тэлефон, калі аўтар з'яўляецца сябрам якога-небудзь мастацкага гуртка. Без выканання гэтых патрабаванняў работы прымацца не будуць!

Конкурсныя работы не вяртаюцца. Яны могуць быць выкарыстаны для выставаў і публікацый у выданнях АПБ, а таксама ў газетах і часопісах (з захаваннем аўтарства).

## Конкурс выяўленчага мастацтва

### "Вялікая белая чапля ў творах юных мастакоў"

Прымаюцца выявы вялікай белай чаплі (малюнак, апплікацыя, вышыўка, скульптура). Работа павінна мець аўтарскую назву. Не прымаюцца малюнкі, зробленыя простым алоўкам, а таксама працы з пластыліну. Усе работы павінны суправаджацца інфармацыяй адпаведна агульным патрабаванням да конкурсных работ. Памер малюнкаў павінен быць не большым за фармат А2. Тэрмін падачы работ рэгіянальным каардынатарам: да 31 мая 2008 года. Узрост удзельнікаў: да 17 год.

Адрасы рэгіянальных каардынатараў для адсылкі мастацкіх конкурсных работ:

Брэсцкая вобласць: Бакур Ю.Ю.,Брэсцкі абласны эколага-біялагічны цэнтр навучэнцаў, вул. Ціхая, 4, г. Брэст, 224020.

Магілёўская вобласць: Бубнова Ж.А., Цэнтр экалагічнага выхавання, вул. Альхоўская, 2б, г. Магілёў, 212017.

Гродненская вобласць: Гуменны В.С., Гімназія №1 ім. акадэміка Я.С. Карскага, пр-т Я.Купалы, 82, г. Гродна, 230010.

Гомельская вобласць: Зеніна І.М., вул. Лясная, д.7, кв.1, г. Тураў, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл., 247980.

Віцебская вобласць: Сінкевіч І.У. , Шумілінскі раённы цэнтр пазашкольнай работы, вул. Ленінская, 22, г.п.Шуміліна, Віцебская вобл., 211260.

Мінская вобласць: Паршута А.В. , Мядзельская сярэдняя агульнаадукацыйная школа №1 ім. У.М. Дубоўкі, вул. Ленінская, 2, г. Мядзел, Мінская вобл., 222397.

Мінск: Якубоўская С.А., Экалагічная гімназія №19, пр. Пушкіна, 48, г. Мінск, 220073.

Увага! Мастацкія работы неабходна дасылаць толькі рэгіянальным каардынатарам. Сакратарыят АПБ будзе прымаць толькі работы, якія сталі прызёрамі рэгіянальных этапаў.

## Конкурс казак пра вялікую белую чаплю

Вы можаце прапанаваць сваю арыгінальную тэму для казкі, выкарыстоўваючы экалагічныя асаблівасці птушкі. Неабходна звярнуць увагу на тое, што ацэньвацца будуць не толькі літаратурныя, але і экалагічныя якасці. Таму неабходна пазбегнуць памылак у біялогіі віду. Казка можа быць напісана на беларускай, рускай ці англійскай мовах. Дасылаць работы лепш у надрукаваным ці электронным выглядзе. У выпадку падачы рукапісных тэкстаў почарк павінен быць акуратным і разборлівым.

Тэрмін падачы работ: да 15 кастрычніка 2008 года.

Узрост удзельнікаў: не абмежаваны.

## Конкурс на лепшы фотаздымак вялікай белай чаплі

Прымаюцца фотавыявы вялікіх белых чапель у прыродным асяроддзі, зробленыя ў 2008 годзе. Не прымаюцца на конкурс фотаздымкі гнёзд з яйкамі і птушанятамі. Фотаздымкі павінны быць каляровымі ці чорна-белымі, фармат - не менш 10х15 см і не больш як 20х30. Да здымка трэба абавязкова дадаць апісанне акалічнасцяў, пры якіх ён быў зроблены (апісанне месца, колькасць назіраемых чапляў, наяўнасць другіх відаў птушак і г.д.)

Тэрмін падачы работ: да 15 кастрычніка 2008 года.

Узрост удзельнікаў: не абмежаваны.

Усе работы павінны адпавядаць агульным патрабаванням да конкурсных работ. Казкі і фотаздымкі трэба дасылаць на адрас АПБ: г. Мінск, а/с 081, 220023

Узнагароджанне пераможцаў. Лаўрэатам усіх конкурсаў будуць уручаны дыпломы, заахвочваючыя прызы і сувеніры. Усе ўдзельнікі атрымаюць лісты з падзякай і налепку з выявай вялікай белай чаплі.

## Акцыя "Сустрэчы з вялікай белай чапляй"

Мэтай акцыі з'яўляецца выяўленне размеркавання вялікіх белых чапляў на тэрыторыі краіны ў розныя перыяды года. Пры назіранні чапляў неабходна пазначыць месца (вобласць, раён, бліжэйшы населены пункт, вадаём), дату і час назірання, агульную колькасць птушак дадзенага віду, коратка паведаміць пра абставіны сустрэчы (назіралі зімоўку, прылёт, пралёт, гнездаванне, харчаванне і г.д.). Калі Вы назіралі вялікую белую чаплю разам з другімі птушкамі, асабліва рыбаеднымі (чаплі, бакланы, буслы), можна дадаць інфармацыю і пра гэта (якія віды, колькасць птушак). Не забывайце таксама паведаміць для кантактаў сваё імя, прозвішча, адрас, тэлефон. Акцыя праводзіцца да 15 кастрычніка. Інфармацыю таксама магчыма размясціць на сайце АПБ (www.ptushki.org)


Фота Дз. Якубовіча

## Акцыя "Калонія вялікай белай чаплі"

Мэтай акцыі з'яўляецца выяўленне гнездавых паселішчаў вялікай белай чаплі на тэрыторыі нашай краіны. Пры знаходжанні гнездавой калоніі, неабходна запісаць месца яе размяшчэння (вобласць, раён, бліжэйшы населены пункт, вадаём), апісаць біятоп, дзе знаходзіцца калонія, прыкладную колькасць пар вялікай белай чаплі, дату назіранняў, сваё прозвішча, імя, адрас, тэлефон. Гэтыя звесткі неабходна адразу даслаць ў АПБ, і мы будзем мець магчымасць узяць гэтыя калоніі пад ахову. Калі Вам сталі вядомыя факты праследу "непажаданых" рыбаедных птушак у месцах гнездавання вялікай белай чаплі, што можа ўплываць на гнездаванне белай чаплі, просім паведаміць таксама і аб гэтым.

## Большая белая цапля на марках







Появление "Птицы года" на марках стало уже доброй традицией. В прошлые годы были выпущены марки со всеми 8 птицами - символами разных лет: белый аист, белая трясогузка, иволга, домовый воробей, городская ласточка, бородатая неясыть, чибис и обыкновенный соловей.

13 марта 2008 года Министерство связи и информатизации Республики Беларусь ввело в почтовое обращение марку "Большая белая цапля " из серии "Птица года".

Художник - Александр Митянин, член АПБ. Тираж марки - 48,0 тыс. экземпляров. Марка подготовлена при содействии нашей организации. Приобрести новые марки можно в любом почтовом отделении.

Интересная информация о марках:

- марка с изображением соловья - "Птицы года 2007", приняла участие в конкурсе "Лучшая почтовая марка Республики Беларусь - 2007". Проголосовать мог каждый в любом почтовом отделении. Итоги конкурса подводятся;
- в конце прошлого года вышел в обращение блок марок "Совы Беларуси". По мнению многих, это самые красивые марки с изображением птиц, выпущенные у нас в стране.

## ВНИМАНИЕ: Новый конкурс АПБ!!!

АПБ объявляет конкурс на лучшую методическую разработку кампаний и акций нашей организации:

- Акция «Осенние дни наблюдений»
- Акция «Зимние учёты птиц»
- Кампания «Живая весна»
- Кампания «Птица года»
- Акция «Соловьиные ночи»
- «День водно-болотных угодий»
- Экскурсия «Птицы нашего края»
- «Орнитологический летник»

Методические разработки должны быть авторскими и предназначенми для учителей, руководителей кружков, организаторов кампаний и акций.

Победитель конкурса получит приз - бинокль «Юкон». Лучшие разработки будут напечатаны в журнале «Біялогія, праблемы выкладання», на сайте и в изданиях АПБ.

Все участники конкурса получат сборник методических разработок. Итоги конкурса будут подведены к следующему Съезду АПБ. Приём работ осуществляется до 30 сентября 2008 года. Работы должны быть представлены в электронном виде (на носителе или по электронной почте).

# “Жывая вясна”

Кампанія “Жывая вясна” праводзіцца ўжо трэці год. У Беларусі яе каардынуе АПБ. Мэта кампаніі - сабраць дадзеныя аб тым, як мігрыруючыя птушкі вяртаюцца з месцаў зімоўкі ў Еўропу. У якасці індыкатараў абраны добра вядомыя ўсім птушкі: **белы бусел, вясковая ластаўка, звычайная зязюля і чорны свіргуль**.

Даволі простыя назіранні, зробленыя вялікай колькасцю людзей, - гэта крыніца інфармацыі пра міграцыі птушак, іх асноўныя рысы і змены ў іх характары, якія адбываюцца штогод. Галоўная перавага агульнаеўрапейскай кампаніі “Жывая Вясна” над іншымі даследваннямі ў тым, што ў ёй вялікая колькасць удзельнікаў будзе прадстаўляць дадзеныя з усёй тэрыторыі Еўропы.

Калі вы першы раз заўважыце птушак (незалежна ад таго, ці бачыў хтосьці іх да вас), індыкатараў надыходу вясны, неабходна занесці гэтыя назіранні на спецыяльна створаны сайт www.springalive.net. На гэтым сайце размешчаны ўсе рэгістрацыі першых назіранняў гэтых відаў птушак. Там вы зможаце паглядзець, колькі рэгістрацый птушак зафіксавана ў кожнай особнай краіне і Еўропе ўвогуле, пазнаёміцца з мапамі прылёту птушак. Тут вы зможаце знайсці таксама шмат цікавай інфармацыі пра птушак і іх міграцыі. Калі няма доступу ў Інтэрнэт ці ўзніклі складанасці з сайтам, можна патэлефанаваць у офіс АПБ: (017)-263-06-13, (017)-263-01-30, і супрацоўнікі АПБ размясцяць вашу інфармацыю на сайце.

Калі вы ці вашы выхаванцы ўпершыню ўбачыце альбо пачуеце адну з пералічаных птушак, гэта назіранне можа застацца толькі вашым, але калі вы гэту інфармацыю змесціце на сайце, то яна ўвойдзе ў агульны склад усіх назіранняў, зробленых на тэрыторыі Еўропы. Чым больш людзей возьме ўдзел у назіраннях за птушкамі і змесціць іх на сайце, тым большую дакладнасць будзе мець уся праца. У 2007 годзе было зроблена 16 277 назіранняў. У параўнанні з папярэднім годам агульная колькасць назіранняў павялічылася ў чатыры разы. Найбольшая колькасць паведамленняў была ў Ірландыі - 5 135, Польшчы - 4 568, Італіі - 1 363. Беларусь па колькасці занесеных на сайт назіранняў размясцілася на 11 месцы з 254 паведамленнямі. Белы бусел атрымаў большую колькасць назіранняў сярод нашых суайчыннікаў - 129! Затым па колькасці назіранняў ідзе зязюля - 55, вясковая ластаўка - 52, найменшую колькасць назіранняў атрымаў свіргуль - 18. У Еўропе самым назіраемым відам стала вясковая ластаўка - 2721 звестка, затым белы бусел - 2264, свіргуль - 1657, зязюля - 871. Цікава, што найбольшая колькасць назіранняў за белымі бусламі ў Еўропе прыходзіцца на 26 сакавіка - 1 красавіка, якраз на Дзень птушак. Найбольшая колькасць назіранняў за вясковай ластаўкай у Еўропе была зроблена з 2 па 8 красавіка, зязюлі - з 23 па 29 красавіка, свіргуля - з 14 па 20 траўня.

“Жывая вясна” - гэта першы праект у нашай краіне, які дае магчымасць арганізавана сабраць феналагічныя звесткі веснавога прылёту птушак у Еўрапейскім маштабе. Прыняць удзел у міжнародным праекце можа любы вучань, педагог ці іншы жыхар краіны. Спецыяльныя анкеты педагогі могуць замовіць у офісе АПБ па вышэй пазначаных тэлефонах. Кампанія “Жывая вясна” будзе працягвацца з сакавіка да 1 чэрвеня.

Назірайце разам з намі!

Руслан Шайкін, спецыяліст па экалагічнай адукацыі

# Итоги “Зимних учетов птиц”

Подведены итоги “Зимних учетов птиц 2008”. Как и в прошлом году, зима была не слишком морозной и «преподнесла» целый ряд интересных наблюдений. Всего в нашей стране в течение января было проведено 262 учета 485 участниками. Помимо членов АПБ в этом году в учётах водоплавающих птиц приняли участие некоторые районные инспекции природных ресурсов и охраны окружающей среды, а также местные структуры Белорусского общества охотников и рыболовов. Активно участвовали члены клубов “Крылатый дозор”.



Ученики Любаньской школы (Лунинецкий р.) на зимних учетах птиц.

Фото Анатолия Нефидовича

Десятый учет зимующих птиц прошел при значительной поддержке компании «Yukon Advanced Optics» - разработчика и производителя дневных наблюдательных приборов (биноклей, зрительных труб) и приборов ночного видения. Компанией в качестве поощрительных призов участникам учетов были предоставлены 3 бинокля и 2 зрительные трубы. Розыгрыш призов прошел 23 февраля на конференции Гродненского областного отделения АПБ. Зрительные трубы получили: Вадим Прокопчук (г.Брест) и М.И. Желток (руководитель кружка, г. Минск); бинокли: Виктор Юкневичус (егерь Воложинского РГО БООР), Сергей Риняк (Белыничский р-н) и Клуб «Крылатый дозор» из г.Жодино, рук. Гриневич И.И.







Юкневичус Виктор (слева) получает приз - бинокль “Юкон” модели 20x50 от директора АПБ Фенчука Виктора Александровича, фото Семёна Левого.

| № п/п | Вид | Количество особей |
|---|---|---|
| 1. | Чернозобая гагара *Gavia arctica* | 1 |
| 2. | Малая поганка *Tachybaptus ruficollis* | 27 |
| 3. | Большая поганка *Podiceps cristatus* | 1 |
| 4. | Большой баклан *Phalacrocorax carbo* | 7 |
| 5. | Большая белая цапля *Egretta alba* | 1 |
| 6. | Большая выпь *Botaurus stellaris* | 3 |
| 7. | Серая цапля *Ardea cinerea* | 146 |
| 8. | Лебедь-шипун *Cygnus olor* | 1615 |
| 9. | Лебедь-кликун *Cygnus cygnus* | 1 |
| 10. | Гуменник *Anser fabalis* | 2 |
| 11. | Белолобый гусь *Anser albifrons* | 1 |
| 12. | Серый гусь *Anser anser* | 5 |
| 13. | Свиязь *Anas penelope* | 7 |
| 14. | Чирок-свистунок *Anas crecca* | 416 |
| 15. | Кряква *Anas platyrhynchos* | 31896 |
| 16. | Шилохвость *Anas acuta* | 8 |
| 17. | Красноголовый нырок *Aythya ferina* | 77 |
| 18. | Морская чернеть *Aythya marila* | 2 |
| 19. | Хохлатая чернеть *Aythya fuligula* | 26 |
| 20. | Обыкновенный гоголь *Bucephala clangula* | 641 |
| 21. | Большой крохаль *Mergus merganser* | 690 |
| 22. | Длинноносый крохаль *Mergus serrator* | 1 |
| 23. | Луток *Mergellus albellus* | 33 |
| 24. | Морянка *Clangula hyemalis* | 1 |
| 25. | Турпан *Melanitta fusca* | 1 |
| 26. | Утка SP. | 488 |
| 27. | Пастушок *Rallus aquaticus* | 5 |
| 28. | Камышница *Gallinula chloropus* | 7 |
| 29. | Лысуха *Fulica atra* | 979 |
| 30. | Бекас *Gallinago gallinago* | 7 |
| 31. | Гаршнеп *Lymnocryptes minimus* | 2 |
| 32. | Озерная чайка *Larus ridibundus* | 201 |
| 33. | Сизая чайка *Larus canus* | 41 |
| 34. | Серебристая чайка/ Хохотунья *Larus argentatus/L. cachinnans* | 3 |
| 35. | Зимородок обыкновенный *Alcedo atthis* | 85 |
| 36. | Орлан-белохвост *Haliaeetus albicilla* | 70 |
| 37. | Тетеревятник *Accipiter gentilis* | 24 |
| 38. | Перепелятник *Accipiter nisus* | 37 |
| 39. | Обыкновенный канюк *Buteo buteo* | 20 |
| 40. | Зимняк *Buteo lagopus* | 15 |
| 41. | Тетерев *Tetrao tetrix* | 34 |
| 42. | Глухарь *Tetrao urogallus* | 4 |
| 43. | Рябчик *Tetrastes bonasia* | 1 |
| 44. | Серая куропатка *Perdix perdix* | 290 |
| 45. | Белая куропатка *Lagopus lagopus* | 7 |
| 46. | Сизый голубь *Columba livia* | 1447 |
| 47. | Кольчатая горлица *Streptopelia decaocto* | 59 |
| 48. | Ушастая сова *Asio otus* | 16 |
| 49. | Серая неясыть *Strix aluco* | 1 |
| 50. | Зелёный дятел *Picus viridis* | 10 |
| 51. | Желна *Dryocopus martius* | 18 |
| 52. | Пестрый дятел *Dendrocopos major* | 129 |
| 53. | Средний дятел *Dendrocopos medius* | 21 |
| 54. | Сирийский дятел *Dendrocopos syriacus* | 1 |
| 55. | Белоспинный дятел *Dendrocopos leuco tos* | 14 |
| 56. | Седой дятел *Picus canus* | 3 |
| 57. | Малый дятел *Dendrocpos minor* | 49 |
| 58. | Трёхпалый дятел *Picoides tridactylus* | 1 |
| 59. | Хохлатый жаворонок *Galerida cristata* | 72 |
| 60. | Свиристель *Bombycilla garrulus* | 883 |
| 61. | Серый сорокопут *Lanius excubitor* | 8 |
| 62. | Обыкновенный скворец *Sturnus vulgaris* | 24 |
| 63. | Сойка *Garrulus glandarius* | 252 |
| 64. | Сорока *Pica pica* | 765 |
| 65. | Галка *Corvus monedula* | 1877 |
| 66. | Грач *Corvus frugilegus* | 350 |
| 67. | Серая ворона *Corvus cornix* | 689 |
| 68. | Ворон *Corvus corax* | 481 |
| 69. | Крапивник *Troglodytes troglod ytes* | 4 |
| 70. | Желтоголовый королёк *Regulus regulus* | 53 |
| 71. | Рябинник *Turdus pilaris* | 66 |
| 72. | Чёрный дрозд *Turdus merula* | 7 |
| 73. | Длиннохвостая синица *Aegithalos caudatus* | 271 |
| 74. | Черноголовая гаичка *Parus palustris* | 152 |
| 75. | Буроголовая гаичка *Parus montanus* | 28 |
| 76. | Хохлатая синица *Parus cristatus* | 66 |
| 77. | Обыкновенная лазоревка *Parus caeruleus* | 137 |
| 78. | Белая лазоревка *Parus cyanus* | 4 |
| 79. | Большая синица *Parus major* | 5770 |
| 80. | Московка *Parus ater* | 3 |
| 81. | Обыкновенный поползень *Sitta europaea* | 98 |
| 82. | Обыкновенная пищуха *Certhia familiaris* | 75 |
| 83. | Домовый воробей *Passer domesticus* | 2758 |
| 84. | Полевой воробей *Passer montanus* | 2569 |
| 85. | Обыкновенная зеленушка *Chloris chloris* | 218 |
| 86. | Чечётка обыкновенная *Carduelis flammea* | 202 |
| 87. | Зяблик *Fringilla coelebs* | 10 |
| 88. | Чиж *Spinus spinus* | 814 |
| 89. | Клёст-еловик *Loxia curvirostra* | 1 |
| 90. | Коноплянка *Carduelis cannabina* | 60 |
| 91. | Черноголовый щегол *Acanthis cannabina* | 529 |
| 92. | Обыкновенный снегирь *Pyrrhula purrhula* | 694 |
| 93. | Обыкновенный дубонос *C. coccothraustes* | 20 |
| 94. | Обыкновенная овсянка *Emberiza citrinella* | 365 |
| | **Всего** | **60072** |

Особое внимание было уделено учетам водоплавающих птиц. Участниками было прислано 262 анкеты. Учтено 36 видов общей численностью 37 500 особей.

Лидерами по численности среди водоплавающих стали кряква, лебедь-шипун и лысуха. Максимальное количество птиц зимовало в следующих местах: г.Новолукомль - 2761 птица, г.Барановичи (Очистные) - 1592 птицы, вдхр. Селец (Брестская обл.) - 2596 птиц, г.Минск (р. Свислочь, Крыница) - 1569 птиц.

Необычно много в этом году было встречено орланов-белохвостов - 70 особей! Один из них впервые зимовал возле г. Борисова.

Для целого ряда видов отмечено только по одной птице: длинноносый крохаль в Гродненском р-не; морянка и лебедь-кликун в Брестском р-не; чернозобая гагара в Минском р-не,


Зимующий скворец, фото Ирины Нефидович


Гуменник с домашними гусями (г. Несвиж), фото Сергея Шокало

белолобый гусь в Борисовском р-не, большая поганка и турпан в Гомельском р-не. В окрестностях Гродно на зимовку осталась большая белая цапля - Птица года 2008. Этот вид зимует у нас очень редко. Сюжет о зимовке цапли был даже показан в вечерних новостях ОНТ.

В Бресте Иваном Богдановичем впервые для Беларуси был окольцован зимующий лебедь-кликун.

Интересные наблюдения редко зимующих птиц (а, возможно, и впервые для Беларуси) сделали Дмитрий Якубович возле Гродно, отметив лесную завирушку и дрозда-белобровика; Александр Сербун в окрестностях Бреста наблюдал лугового конька.

На болоте Ельня (Витебская обл.) Валерием Ковалёнком встречена стайка белых куропаток из 7 особей.

19-20 января прошла акция «Птушкі на кармушцы». По сравнению с прошлым годом число участников заметно увеличилось - 185 (в 2007г. - 70). Число привлечённых на кормушки видов составило 32. Самыми обычными посетителями были большая синица - 3635 особей, домовый воробей - 796 и полевой воробей - 503 особи. Самыми редкими птицами на кормушках и подкормочных площадках стали скворец, чёрный дрозд, зяблик, пищуха и серая куропатка. Данные по прилетевшим на кормушки птицам, а также фотографии участников можно посмотреть на нашем сайте www.ptushki.org. Данные анкет показали, что для подкормки птиц использовались не только обычные корма - семена подсолнечника, проса, рапса, сорных растений, крошки хлеба, свиное сало, но и даже варёные каши, крошеные мясные котлеты и салат оливье!


Ученики Тельмовской школы (Брестский р-н) развешивают кормушки.

Совсем недавно появилась интересная информация: учёные из Великобритании установили, что птицы, получающие зимой подкормку от человека, раньше приступают к гнездованию, и из их гнезд вылетает на одного птенца больше, чем у птиц, не получавших подкормки. Поэтому, подкармливая птиц зимой, мы оказываем им действительно значимую помощь.

Семён Левый, АПБ

## Зоркі беларускага року - за вясну без стрэлаў!

Музыканты вядомай групы «Крамбамбуля» на чале з яе лідэрам Лявонам Вольскім і гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч паставілі свае подпісы ў забарону вясновага палявання на птушак у нашай краіне.

Вядома, што на сёняшні дзень Беларусь разам з Расіей застаюцца адзінымі еўрапейскімі краінамі, дзе паляванне на птушак увесну дазволена. Ужо шмат гадоў, як ад веснавога палявання адмовіліся ва ўсіх краінах Еўрасаюзу, Украіне, Грузіі. Нават у Расіі веснавое паляванне значна абмежаванае, яго не адчыняюць у шэрагу рэгіёнаў, а тэрміны палявання ўвесну не перавышаюць 10 дзён, што ў 4-6 разоў менш, чым у Беларусі.


Фота з www.krambambulya.com

Сімвалічна, што сваю падтрымку ініцыятыве па адмене веснавога палявання на вадаплаўных птушак у Беларусі музыканты выказалі пасля канцэрту 14 лютага ў дзень св. Валянціна.

**Няхай птушкі таксама кахаюць без страху!**

### Мы собрали первые 10 000 подписей!

За два месяца с начала объявления акции членами АПБ собрано 10 000 подписей за закрытие весенней охоты на водоплавающих птиц. АПБ продолжит сбор подписей. Необходимый минимум - 50 000. Такая численность будет уже достаточно значимой.

Мы приглашаем всех неравнодушных людей продолжить работу по сбору подписей. Для получения дополнительных бланков, пожалуйста, свяжитесь с Секретариатом (8-017-263-06-13).

### Акция «Выратуем альбатросаў» продолжается

За прошедший год благодаря активности членов АПБ было собрано примерно 16 000 марок. Все они уже переданы организаторам акции в Великобританию. На сегодняшний день на спасение альбатросов пожертвовали свои марки более 200 человек. Узнать наших героев можно, посетив сайт АПБ. Многие люди присылали конверты с марками по несколько раз и, в том числе, коллекционные экземпляры. Марки собирали не только отдельные люди, но и рабочие коллективы, кружки «Крылатый дозор», школы. Мы очень Вам признательны за поддержку.

Напомню, марки, в том числе использованные, можно продавать коллекционерам на аукционах. Вырученные деньги идут на спасение альбатросов - морских птиц, которые гибнут тысячами, попадая на крючки морских рыболовных снастей.

Акция продолжается. Присылайте марки с конвертов на наш адрес: а/я 306, г. Минск, 220050.

## Как помочь редкой утке - лутку?

В практической работе по сохранению биоразнообразия участвуют не только профессионалы, но и самые заинтересованные люди - местные жители. Особенно важно воспитать интерес и уважение к родной природе у детей. Благодаря проекту общественной организации «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) школьники из экологических клубов Житковичского района смогли поучаствовать в спасении единственной в Беларуси популяции редкого вида уток - лутка. Финансируется проект Программой малых грантов Глобального экологического фонда.

Почему же в спасении нуждается именно луток? Как рассказала корреспонденту «НГ» координатор проекта Наталья Поречина, эта утка - одна из самых редких и красивых гнездящихся птиц Беларуси. При том, что гнездовой ареал обитания начинается для лутка в тысяче километров на север от границ Беларуси, в тайге, маленькая колония на Полесье выглядит просто чудом. Гнездятся лутки исключительно в дуплах деревьев, которые растут на самом берегу водоемов. К сожалению, в последнее время их становится все меньше и меньше. Орнитологи нашли выход из ситуации - можно развесить на деревьях искусственные дуплянки. Такой эксперимент провели специалисты Национальной академии наук Беларуси в 1993 году, и он увенчался успехом - часть домиков была заселена. Однако сейчас практически все искусственные дуплянки рассохлись и разрушились.

И тут на помощь редкой утке пришли школьники. Ученики Дяковичской и Ленинской средних школ, Переровской базовой школы и Дома детского творчества города Турова соорудили около 30 дуплянок для лутков. Накануне Международного дня водно-болотных угодий специалисты АПБ приехали в Житковичский район помочь школьникам развесить домики для уток.

Вот и первое подходящее дерево - отдельно стоящая береза. Это важно: хищникам будет сложнее перепрыгнуть на нее с соседних деревьев и уничтожить кладку. Облачившись в специальное снаряжение, нацепив на ноги «кошки», орнитолог с большим стажем Геннадий Миндлин буквально «взлетает» на дерево. Вешать дуплянку нужно на высоте не ниже восьми метров. В это время внизу младший научный сотрудник Института зоологии Национальной академии наук Олег Островский разрезает жестяное ведро - готовит специальную манжету для ствола. По металлу куница или норка не смогут забраться на дерево снизу.

Ученый-орнитолог рассказывает о специфических особенностях лутка: - Самая большая проблема - нехватка старых деревьев с дуплами. Плюс борьба за дупла с другим пернатым видом. Более крупная птица белый гоголь часто занимает дупла, пригодные для лутков. Поэтому есть необходимость развешать побольше дуплянок со слишком узким для гоголя входом, чтобы луток мог загнездиться. В 1990-х годах на территории рыбхоза «Белое» насчитывалось около 30 пар этих редких уток, сейчас - около пяти.

Принесет ли акция результат, орнитологи будут знать уже к осени. Однако не менее важно то, что протянуть руку помощи редкой птице смогли дети. Летом школьники смогут сами понаблюдать за жизнью лутков в рыбхозе «Белое» и даже написать научную работу.

Алена Яско, «Народная Газета» (в сокращении)

## “Дзедаўка 2008”

Штодзённыя сюрпрызы веснавога надвор'я і нават штармавое папярэджанне не змаглі перакрэсліць планы аматараў птушак з Лунінеччыны, Берасцейшчыны, Гродна і Мінска актыўна адпачыць і папрацаваць разам для птушак і людзей.

Менавіта з гэтай нагоды з 29 лютага па 2 сакавіка ў Белавежскай пушчы ля ваколіц в. Дзедаўка Камянецкага р-на Брэсцкай вобласці адбыўся 2-гі семінар-летнік у рамках праекта “Прырода аб'ядноўвае людзей”, які ажыццяўляецца дзякуючы фінансавай падтрымцы Праграмы малых грантаў ГЭФ.

Людзі розных прафесій і ўзростаў, студэнты, арнітолагі-прафесіяналы і аматары за тры дні змаглі не толькі пазнаёміцца, абмеркаваць шэраг пытанняў, якія тычацца біятэхніі, біялогіі соў, узаемаадносін начных драпежных птушак і людзей, ААПТ ды іншых аспектаў, але і пабываць на начных уліках... Магчыма, толькі гукі начнога лесу і яго таямнічых жыхароў могуць так паўздзейнічаць на чалавека, які ніколі не чуў голас касматаногага сыча, што на наступны дзень практычна кожны ўдзельнік семінара-летніка імкнуўся зрабіць “новую кватэру” менавіта для яго. І гэта невыпадкова: атрымліваць асалоду ад песні касматаногага сыча можна было стоячы на ганку ўтульнай вясковай хаты, з якой усе быццам зрадніліся за гэтыя дні, асабліва ў дажджлівыя і ветраныя апошнія суткі.

Пад час семінара-летніка былі начныя ўлікі соў і штодзённая 2-3-гадзінная праца па вырабу і развешванню штучных гнездавых скрынь для розных відаў соў, знаёмства з айчынным і замежным вопытам па вывучэнню начных драпежных птушак, майстар-класс па кальцаванню птушак, і, канешне, назіранне за птушкамі.

Зіма нагадвала яшчэ аб сваёй прысутнасці снегам з градам, гілямі і чародкамі амялушак, аднак першая песня баравога жаўрука, курлыканне журавоў, гогат пралётных гусей падказвалі хуткі прыход вясны, абуджэнне лесу і яго таямнічых начных пярнатых драпежнікаў, дзеля якіх і ідзе праца ў рамках праекта “Прырода аб'ядноўвае людзей”.

Вадзім Пракапчук, каардынатар праекта,
Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне АПБ.

## Новый вид птиц!

Список птиц Беларуси может пополнить новый вид.

Летом, примерно в 2000-2001гг., в Полоцком р-не была добыта утка с кольцом из Северной Америки. В 2005г. кольцо было передано в Белорусский центр кольцевания птиц. Только спустя три года наконец-то удалось раскрыть тайну: этим кольцом была помечена самка стеллеровой (сибирской) гаги 22 сентября 1996г.! Место кольцевания расположено на Аляске, в 7 661 км от места добычи. Этот случай ещё будет рассмотрен Комиссией по редкостям и только после этого вид добавится (или нет) к списку птиц Беларуси.


Фото с www.surfbirds.com

## Большой успех АПБ

26-27 февраля в Республиканском экологическом центре детей и юношества прошёл XIX Республиканский конкурс научных биолого-экологических работ учащихся общеобразовательных учреждений внешкольного воспитания и обучения.

В финале конкурса в Минске были представлены 104 исследовательские работы в 6 секциях.

Все места в секции "Экология животных" заняли работы, в которых научные руководители являются (или были) членами АПБ!

Первое место заняла Татьяна Каравай (п. Мачулищи, Минский р-н), научный руководитель (н.р.) - Руслан Шайкин, специалист по экологическому образованию АПБ.

Второе место занял Роман Шкабара (г. Кобрин, Брестская обл.), н.р. - Семён Левый, специалист АПБ по развитию организации.

Еще одно второе место присуждено Д. Домацевичу (г. Минск), н.р. - Хандогий А.В., БГПУ им. М.Танка.

Третье место присуждено Юлии Анисене (д. Новый Двор, Свислочский р-н, Гродненская обл.), н.р. - Панотчик Мария Иосифовна (руководитель самого большого клуба АПБ "Крылатый дозор" - 77 человек) и Новицкий Р. В., Институт зоологии НАН Беларуси.

Также третье место заняла В. Романович (д. Гожа, Гродненскнй р-н), н.р. - Репина Ольга Геннадьевна (руководитель клуба "Крылатый дозор").

Два места получили научные руководители со своими подопечными в секции "Вода и водные экосистемы".

Второе место - Мартыненко В.В., Ефимов С.В. (д. Суровни, Шумилинский р-н, Витебская обл.), н.р. - Зезюлько Галина Владимировна, учитель.

Третье место - Усачева К.В. (г. Минск), н.р. - Верес Юлия, руководитель секции НОУ в РЭЦДиЮ.

Поздравляем всех победителей и участников! Желаем дальнейших творческих успехов!

## “Лепшы сябра АПБ - 2008”

Для ўдзельнікаў конкурсу ў сяброўскай анкеце ёсць графа “Хто прапанаваў вам стаць сябрам АПБ”. Кожны новы сябра АПБ, які запіша ў гэтую графу прозвішча чалавека, які параіў яму далучыцца да нашай арганізацыі, дасць апошняму дадатковы шанец на атрыманне прыза. Будзе ўлічвацца таксама актыўнасць нашых сябраў па збору ўзносаў за бягучы год. Удзельнічайце і перамагайце! Прыз - мабільны тэлефон.

## “Юный орнитолог года - 2008”

К участию в конкурсе, как и в предыдущие годы, приглашается молодежь до 17 лет. Чтобы стать победителем, необходимо прислать на адрес АПБ свой полевой дневник. Записывайте свои наблюдения птиц в 2008г., делайте зарисовки, участвуйте в кампаниях и акциях нашей организации - и у Вас есть реальный шанс выиграть ценные призы.

Все полевые дневники, присланные для участия в конкурсе, будут возвращены их авторам.

Интересных Вам наблюдений и удачи в поле!

## Гарадзенцы сустрэлі юбілей разам са шматлікімі гасцямі

На працягу трох дзён у гасціннай гімназіі №1 імя акадэміка Я.Карскага г. Гродна праходзілі юбілейныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 15-годдзя заснавання Заходне-Беларускага таварыства аховы птушак.

У пятніцу, 22 лютага, праходзіла ўжо IV-я Гродзенская абласная адкрытая заалагічная канферэнцыя навучэнцаў, у якой традыцыйна ўдзельнічаюць юныя даследчыкі-заолагі з усёй Беларусі. На гэты раз яна была прысвечана 125-годдзю з дня народзінаў знакамітага заолага са Шчучыншчыны, акадэміка Тадэвуша Іваноўскага.

На наступны дзень сцены гімназіі прымалі не толькі гасцей адкрытай "дарослай" канферэнцыі Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ з усёй Беларусі, але і суседняй Літвы. Больш за 80 удзельнікаў канферэнцыі не толькі змаглі паслухаць цікавыя прэзентацыі гасцей канферэнцыі, прысвечаныя гісторыі аховы птушак у сучаснай Беларусі, каштоўным прыродным месцам і птушкам, якія іх насяляюць, але таксама з выдатнымі расповедамі пра асобныя віды птушак (звычайную зязюлю, чырвонаваллёвага свірстуна, глушца, поплаўнага луня), пачуць пра стратэгію АПБ за забарону вясновага палявання, азнаёміцца з першымі вынікамі і планамі на бліжэйшую будучыню Беларускай працоўнай групы па куліках. Дзякуючы юбілейнай даце, 15-годдзю ўтварэння Заходне-Беларускага таварыства аховы птушак (ЗБТАП), усе прысутныя змаглі ўбачыць "ветэранаў" аховы птушак з усёй Беларусі і пачуць кароткія ўспаміны кожнага з сябраў ЗБТАП пра пачаткі і дзейнасць гэтай арганізацыі аднаго з заснавальнікаў АПБ.

Як заўсёды, самай яскравай старонкай канферэнцыі стала чарговая прэм'ера навукова-папулярнага фільма беларускага рэжысёра і сябра АПБ Ігара Бышнёва пад назвай "Сцежкай ваўка". Яшчэ адзін фільм, пра прыроду і адну з найцікавейшых драпежных птушак суседняй Літвы, - скапу, прадставіў ганаровы госць канферэнцыі Кестуціс Чапенас, прэзідэнт Літоўскага арніталагічнага таварыства LOD.

Яшчэ адным яскравым эпізодам стала ўзнагароджанне падзякай-дыпломам ад АПБ ксяндза-пробашча Жалудоцкага парафіяльнага касцёлу а.Яна Рэйшаля. Менавіта дзякуючы яго вялізнай асабістай дапамозе стала магчымым усталяванне і ўрачыстае адкрыццё на касцёле ў Жалудку памятнай шыльды заснавальніку беларускай арніталогіі Канстанціну Тызенгаўзу (1786-1853).

Пасля частавання ўсіх прысутных юбілейным тортам, афіцыйнай справаздачы Рады і Рэвізійнай камісіі за мінулы год і планаў аддзялення на 2008 год, канферэнцыя закончыла сваю працу.

У нядзелю, акрамя экскурсіі па гістарычных месцах Горадні-Гродна для гасцей канферэнцыі, адбыўся трэнінг-семінар для лідэраў АПБ з Гарадзеншчыны.

Шчыра дзякуем усім сябрам АПБ, іншым асобам і арганізацыям, без удзелу і дапамогі якіх троxдзённая канферэнцыя проста б не адбылася. Асаблівая падзяка Валянціне Сцяпанаўне Макаравай, Віталю Гуменнаму, Дзьмітрыю Ракіцкаму, Людміле Шарыпавай і Шведскаму арніталагічнаму таварыству SOF.

Дзьмітры Вінчэўскі, Гродзенскае абласное аддзяленне.

### *Сябрам АПБ.*

*Нагадваем, што памер гадавога ўзносу на 2008 год застаецца такім самым, як і ў 2007 годзе:*
***Асабісты** - 10 000 рублёў;*
***Сямейны** - 11 000 рублёў;*
***Ільготны** (студэнты, пенсіянеры, школьнікі) - 7000 рублёў;*
*Сябра клуба **"Рэдкая птушка"** - 20 000 рублёў;*
*Кіраўнік клуба **"Крылаты дазор"** - 7100 рублёў;*
*(Сябра клуба **"Крылаты дазор"** - 1000 рублёў);*
*Дадатковыя неабавязковыя ўзносы:*
***Навуковы** (+ навуковы журнал SUBBUTEO) - 2500 рублёў.*

*Сябра АПБ атрымлівае за год: сяброўскую картку, налепку, плакат, інфармацыйны бюлетэнь (чатыры выпускі), два нумары часопіса "Птушкі і мы" і шэраг дадатковых матэрыялаў па кампаніях і акцыях.*

**Увага! Змянілася назва банка.**

Узносы можна пералічыць паштовым пераводам у любым паштовым аддзяленні на наш банкаўскі рахунак:

**Грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" р/р 301 501 355 0019 ААТ "БПС-Банк", філіял па Мінскай вобласці код 331. УНП 101546170, АКПА 37527794.**

Квітанцыю перавода дасылаць не трэба.

Інфармацыя для кіраўнікоў клубаў "Крылаты дазор"

Дашліце, калі ласка, спіс дзяцей вашага клуба ў 2008г. Насупраць фаміліі павінен быць подпіс бацькоў, каб было відаць іх згоду на сяброўства падлетка ў нашай арганізацыі. Акрамя таго, пазначце, колькі год кожны з гуртkоўцаў займаецца ў Вашым "Крылатым дазоры"




**АПБ з`яўляецца эксклюзіўным партнёрам BirdLife International у Беларусі**




- Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
- Перадрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь "Ахова птушак Бацькаўшчыны", АПБ
- Галоўны рэдактар: Уладзімір Іваноўскі
- Рэдакцыйная рада: Ігар Бышнёў (адказны рэдактар), Аляксандр Вінчэўскі, Сяргей Зуёнак, Віктар Фенчук, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін
- Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі
- Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна - далучайцеся да сяброў АПБ
- Калі Вы жадаеце стаць сябрам АПБ, тэлефануйце нам ці прыходзьце да нас: г. Мінск, вул. Макаёнка 8, пак. 313.
- Наш паштовы адрас: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь Тэл./Факс: 017-263 06 13; E-mail: APB@tut.by




Отпечатано в ОДО «Геопринт». ЛП № 02330/0148701. Зак. № 522. Тир. 299 экз.